Кошт паштовай пэрасылкі
аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 40.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 320000 м.п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 50.000 мк., сярод тэксту 40.000 м. і на 4 стр. 35.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 13. Вільня, Нядзеля, 2-га сьнежня 1923 г. Год I.

## Адзіны фронт.

Паскольку будучына ўнутраных палітычных і соцыяльных адносінаў у Польскай Рэспубліцы прадстаўляе нейкую туманнасьць, пастольку сучаснасьць стаецца ўсё больш і больш выразнай.

Усё больш і больш вырысовываецца падзел польскага грамадзянства на два вялізарныя абозы, якія *розьняцца між сабой ня толькі сваімі сацыяльнымі паглядамі, але ўжо і палітычнымі.*

Яшчэ мо' паўгоду таму назад польская „лявіца" і „правіца" розьніліся між сабой *выключна* паглядамі на *сацыяльныя* пытаньні. *Палітычная праграма* была ў іх *адна*: умацовываць польскую дзяржаўнасьць коштам нацыянальных меншасьцяў і этнаграфічна няпольскія земли, заваяваныя сілай аружжа, чым хутчэй спольшчыць; дзяржацца за спадніцу „пані-маткі" Францыі і на ўслугі апошняе дзяржаць вялізарную армію, гатовую выступіць проці Нямецкага народу па першаму прыказу з Парыжа. Ясна, што пры такім палажэньні у нацыянальных меншасьцяў Польшчы не магло быць супольнага языка з „лявіцай". Цяпер гэта праграмная еднасьць пачынае ўсё больш развальвацца. Прынамся ў справе нацыянальных меншасьцяў польская „лявіца", не зракаючыся яшчэ свайго *„права"* на тое, што захоплена *гвалтам*, усё-ж такі зыходзе з становішча, на якім дагэтуль стаяла разам з эндэкамі: з становішча „пэратраўленьня" няпольскага насяленьня „kresów", дэнацыяналізацыі гэтага насяленьня.

Мы ўжо ня раз адзначалі выступленьні адказных прадстаўнікоў польскіх левых партыяў, хоць п. Чапінські ўсё яшчэ ня можа з гэтым пагадзіцца: нацыяналістычнае шыла ўсё яшчэ вылазе з ягонага „сацыялістычнага мяшка". І мы верым, што жыцьцё прымусе „лявіцу" ад слоў перайсьці да дзела: да доказу на дзеле перамены свайго старога, недастойнага сацыялістаў, становішча. А тады запраўды знойдзецца супольны язык у польскае „лявіцы" і меншасьцяў.

Наскольні гэта ўсё жыцьцёва неабходна і нямінуча, паказваюць два факты: з аднаго боку—новае становішча польскіх камуністаў, якія, прызнаючы права беларусаў і украінцаў на аб'яднаньне іх зямель, падзеленых рыжскім мірам, адначасна з гэтым сталулі на грунце прызнаньня і абароны *незалежнасьці Польшчы*. Гэта апошняе зьяўляецца „залатым мостам", праз які камуністы хочуць дайсьці *да супольнага сацыяльнага фронту* з P. P. S. і „Wyzwoleniem". З другога боку, мы бачым факт выдзяленьня ў *асобную фракцыю* Украінскага Пасольскага Клюбу *украінскіх сацыялістычных паслоў*, а такжа факт падобнага працэсу *крышталізацыі сацыялістычнае групы* ў Беларускім Пасольскім Клюбе.

Усе гэтыя зьявішчы—нязвычайна важныя для справы стварэньня адзінага сацыяльнага фронту—ня толькі *польскага*, але і *міжнацыянальнага ў Польшчы.* Жыцьцё прымусіла ўсе левыя элементы ў Польскай Рэспубліцы да пераацэнкі сваіх часьцю палітычных, часьцю тактычных „цэннасьцяў", і вынікам гэтага можа быць запраўды *адзіны сацыяльны фронт народаў Польшчы*, — так сама, як у сваім часе істнаваў (дый цяпер істнуе) адзіны сацыяльны фронт народаў Расеі.

## Працоуныя горадоу і вёсак.

У адным з папярэдніх нумароў нашай газэты, мы гаварылі аб патрэбе цеснага саюзу ня толькі паміж сялянамі розных краёў але аб патрэбе такога-ж саюзу і паміж сялянамі і работнікамі, бо толькі аб'яднанымі сіламі сяляне і работнікі могуць вызваліцца ад уціску абшарнікаў і капіталістаў.

Ворагі працоўнага нароgу ясна бачаць, якая небясьпека пагражае ім ад гэткага саюзу ўсіх працоўных; бо калі гэткі саюз зьдзейсьніцца, калі работнік і селянін рука аб руку пойдуць разам, памагаючы адзін другому, дык прыдзе канец іх панаваньню... І вось дзеля гэтага яны ўсялякімі спосабамі стараюцца пасварыць паміж сабою работнікаў і сялянаў, стараюцца пасеяць ненавісьць паміж тымі і другімі, намаўляюць, што інтарэсы сялян і работнікаў проста супярэчны. Гарадзкім работнікам яны кажуць, што сяляне—гэта спэкулянты, паднімаюць кожны дзень цэны на жыта, бульбу, мяса, масла, яйкі і іншыя прадукты, якія патрэбны на пражыцьцё гарадзкому работніку, і дзеля гэтага селянін ёсьць ворагам гарадзкога насяленьня, які рад умарыць яго з голаду, каб толькі больш атрымаць грошаў. Зусім іншае кажуць тыя-ж паны сялянам: гарадзкія работнікі—кажуць яны—гультаі, ня хочуць працаваць. Заўсёды бастуюць, каб атрымліваць большую плату. А прамыслоўцы і гандляры, павялічваючы плату работнікам, прымушаны павялічваць і цэны на тавары. Вось дзеля чаго істнуе дарагоўля на тавары, якія патрэбны селяніну, каб вясьці сваю гаспадарку і адзець і абуць сваю сямь'ю; значыцца, выходзіць, што гарадзкі работнік ёсьць вораг селяніна і ад яго ўсё няшчасьце вёскі.

Што гэта злосная брахня, патрэбная абшарнікам і капіталістам, каб пасварыць работнікаў і сялян, дужа лёгка давясьці. Запраўды, істнуе страшэнная дарагоўля, ад якой аднолькава церпяць і сяляне і работнікі, але—хто-ж запраўды вінаваты ў гэтым? Кожны ведае, што цана на хлеб у вёсках стаіць цяпер шмат ніжэй, чым перад вайною; таксама добра ведама, што гарадзкі работнік ці працоўны інтэлігент атрымліваюць таксама шмат меней, чым яны атрымлівалі перад вайной,—дык адкуль-жа такая вялізарная дарагоўля на розныя тавары, цэны на якія многа большыя чым перад вайной? чаму так дорага пражыцьцё ў горадзе, калі цэны на хлеб у вёсцы нізкія? Вось тут мы і бачым, што гэтыя цэны ўзьвінчываюцца прамыслоўцамі, фабрыкантамі, абшарнікамі, гандлярамі, спэкулянтамі, якія, вызыскуючы працу селяніна і работніка, нажываюць вялізарныя капіталы.

Вызыск селяніна і работніка буржуазнымі клясамі істнаваў заўсёды, але перад вайной, калі капіталістычная гаспадарка вялася ў нармальных варунках, гэты вызыск меў пэўныя граніцы, якія не пераходзіліся і ён ня так адчуваўся вызыскуемымі. Цяпер-жа, калі капіталістычная гаспадарка шмат пацярпела ад вайны і капіталісты ўжо не задавальняюцца звычайным дахадам, а хочуць яшчэ нажыць капітал на адбудову пацярпеўшых ад вайны сваіх прадпрыемстваў, вызыск гэты павялічыўся ў шмат разоў. Гэтае зьявішча мы бачым ня толькі ў Польшчы, але і ўва ўсіх іншых буржуазных дзяржавах. Толькі ў Польшчы, дзякуючы нездароваму гаспадарскаму фінансаваму палажэньню, варункі складаюцца так, што вызыск капіталістаў і абшарнікаў пераходзіць усялякія граніцы.

Аднэй з галоўных прычын гэтага зьяўляецца спадак маркі. Польская марка траціць на сваёй вартасьці дзеля многіх прычынаў: аднэй з гэтых прычын зьяўляецца тое, што ў скарбе няма золата, якім-бы забясьпечваліся папяровыя грошы; дзеля таго, што заможныя клясы ўхіляюцца ад таго, каб плаціць падаткі, патрэбныя для ўтрыманьня дзяржаўнага апарату, урад прымушаны для сваіх выдаткаў друкаваць папяровыя грошы, а чым больш іх друкуецца, тым больш яны трацяць сваю вартасьць. І вось гэты спадак маркі йдзе як ня трэба лепш на карысьць абшарнікаў і капіталістаў. Селянін прадае прадукт сваей працы на маркі, якія праз кароткі час трацяць палову, а то і больш сваей вартасьці. Фабрыканты і абшарнікі, калі й прадаюць свае тавары на маркі, дык аблічаюць іх заўсёды па курсу якой-небудзь заграпічнай высокай вартасьці валюты, скажам даляраў, стасуючыся да цэнаў на заграпічных рынках; атрыманыя маркі, яны зараз-жа мяняюць на заграпічную валюту і такім спосабам ніколі спадак маркі ня прыносіць ім страты, а наадварот заўсёды дае вялікі даход. Работнікі атрымоўваюць плату таксама ў марках; заработная плата рэгулюецца толькі два разы ў месяц у той час, як цэны на прадукты, хоць купленыя ў вёсцы на маркі, спэкулянты дапасоўваючы да курсу заграпічных валютаў, павялічваюць кожны дзень і фактычна плата работнікаў усё зьмяншаецца; ня гледзячы на ўзрост цэнаў, прамыслоўцы ніколі не згаджаюцца павялічыць плату работнікам на столькі, на сколькі падняліся цэны; і дзеля гэтага работнікі прымушаны баставаць. Часта прамыслоўцы сумысна даводзяць работнікаў да забастоўкі, або самі спыняюць працу на сваіх прадпрыемствах, гэта дзеля таго, каб не выпускаць на рынак шмат тавараў, бо чым менш тавараў на рынку, тым даражэй можна за іх браць.

Апрача таго абшарнікі і прамыслоўцы атрымліваюць ад дзяржаўнага скарбу вялізарныя пазычкі ў марках, якія плацяць толькі праз колькі месяцаў, калі вартасьць маркі панізілася ў шмат разоў. Вось дзеля чаго абшарнікі і капіталісты зусім не зацікаўлены ў тым, каб паправіць скарб, бо яны на гэтым маюць толькі зыск, а вялікую страту маюць толькі працоўныя клясы: сяляне, работнікі і інтэлігенцыя.

Вось дзеля чаго марка яшчэ хутчэй пачала спадаць, калі ўлада перайшла ў рукі хьены і пяста — абшарнікаў, багатых сялян і капіталістаў.

Як бачым супярэчнасьці ў інтарэсах работнікаў і сялян няма ніякай; яны аднолькава вызыскуюцца заможнымі клясамі і дзеля гэтага павінны супольна змагацца, каб пазбавіцца гэтага вызыску.

**Кумельган.**

## Ратуйце беларускую школу!

Дзеці — будучына народу. Абавязку аб узгадаваньні і навуцы для іх ніхто не павінен забывацца. Тая невялікая лічба беларускіх школ, асабліва сярэдніх—гімназіяў, мае права на гарачае падтрыманьне іх з боку беларускага грамадзянства. Дапамога матэрыяльная гэтым гімназіям, як прыватным, якія не атрымліваюць ад Ураду ані аднэй маркі субсідыі на сваё утрыманьне, павінна ісьці ад грамадзянства нашага сыстэматычна. Дарагоўля расьцець, вучыцялі гімназіяў, не дастаючы пражытачнага minimum'а,—бо ня могуць накладаць на бедную дзятву вялікай платы за навуку,—ахвярна, трацячы здароўе, вядуць сваю цяжкую працу. Патрэбна неадкладная дапамога. Праўда, аб гэтым ў першую чаргу павінна дбаць Белар. Цэнтр. Школьная Рада, але і шырокім кругом беларускага грамадзянства ня можна быць нядбалымі. Беларускія гімназіі, якія узгадоўваюць беларускую інтэлігенцыю, маюць найвялікшае права ад усіх нас атрымоўваць сталую дапамогу. Сябры Т-ва Беларускае Школы *павінны акуратнейшым спосабам штомесячна ўносіць сяброўскія складкі*, не адцягаваючы ўплаты, бо калі наогул адклад ня йдзе ў лад, дык ў гэтай справе, увaжаючы на спадак польскай маркі ўвесь час, гэтая наша прыказка мае асабліва важнае значэньне.

Ні адзін сьвядомы беларус ня можа ўхіліцца ад гэтага грамадзкага абавязку, за-

# Палітычныя падзеі.

## Крызіс у Нямеччыне.

Габінэтны крызіс у Нямеччыне прыняў зацяжны характар. Перапрабаваны розныя палітычныя камбінацыі, высоўваліся кандыдатуры розных палітычных дзеячоў, але новы ўрад дагэтуль не ўтварыўся і невядома ці хутка ўтворыцца. Прычыны гэтага зьявішча ляжаць у тым, што уклад сілаў у дзяржаве зусім не адпавядае укладу партыйных груповак у парлямэнце, і ніякі ўрад, які будзе апірацца на тую ці іншую коаліцыю партыяў у парлямэнце, ня можа лічыць на падтрыманьне ў народзе.

Як мы ўжо ня раз пісалі, нямецкі народ усё больш выразна дзеліцца на два варожыя лагеры: прыгнечаныя працоўныя клясы і вялікая буржуазія і абшарніцтва. Кампраміса паміж гэтымі лагерамі быць ня можа, можа быць толькі бязьлітасная барацьба, якая кончыцца аканчальнай перамогай тэй ці іншай, а тым часам ідзе падрыхтоўка да гэтай рашучай барацьбы. Правыя рэакцыйныя элемэнты, маючы спагад і падтрыманьне меўшай дасюль уладу лібэральнай буржуазіі імкнуцца ўмацаваць сваё палажэньне і абязьсіліць праціўнікаў. Дзеля гэтага вымушаюцца ад ураду жорсткія рэпрэсіі проціў пралетарскіх арганізацыяў і адначасна робяцца захады, карыстаючы з габінэтнага крызысу, захапіць уладу легальным шляхам. Дзеля гэтага крайняя правая партыя згаджаецца прыняць місію тварэньня новага ўраду але для гэтага ставіць варункам роспуск парлямэнту, у якім яны ня маюць большасьці і дзе ім прышлося-б ісьці на кампраміс з нявыразнай лібэральнай буржуазіяй і сацыял-угодай. Дамагаюцца таксама адстаўкі прэзыдэнта Эбэрта.

Чым-бы ня скончыліся цяперашнія таргі за ўладу, ясна адно, што ня ў гэтым цэнтр цяжару палажэньня. Барацьба адбудзецца не на парлямэнцкім грунце, з якім ужо і цяпер ніхто паважна ня лічыцца, і калі барацьба яшчэ не распачалася, дык толькі дзеля таго, што абедзьве стараны бадай маюць роўныя сілы і з уласьцівай нямецкаму народу асьцярожнасьцю, баяцца рызыкаваць няпэўнымі яшчэ вынікамі барацьбы.

## ПОЛЬШЧА.

Палітычнае палажэньне ў Польшчы таксама няпэўнае. Усё больш і больш адчуваецца нездавольства шырокіх масаў ўрадаваньнем „польскай большасьці“. Нават у самай гэтай урадовай большасьці істнуе разлад і можна спадзявацца, што ў хуткім часе яна разваліцца. Усялякія спробы абнаўленьня ўраду не даюць дадатніх вынікаў: міністар за міністрам выходзяць у адстаўку, па іх месца назначаюцца новыя, але справа ад гэтага ні на капельку не паляпшаецца, наадварот: марка падае з галаваломнай хуткасьцю, дарагоўля расьце яшчэ хутчэй. Дзяржаўныя друкарні не пасьпяваюць друкаваць патрэбныя лічбы папяровых ужо зусім абясцэненых марак і на грашовых рынках усё часьцей адчуваецца нястача гатоўкі.

У самым Сойме ўжо няма моцнае большасьці. У шмат якіх важнейшых пытаньнях клюбы большасьці галасуюць па рознаму і некаторыя ўрадовыя прапазыцыі правалілся-б, каб не знайшлі патрыманьня сярод лявіцы, якая вядзе таксама безпраграмную палітыку і ня мае сьмеласьці зваліць урад, бо чуе, што сама ня здольна ўтварыць які-небудзь працаздольны ўрад, тым больш што нацыяналізм польскай лявіцы перашкаджае ёй дагаварыцца з клюбамі нацыянальных меншасьцяў.

А тым часам рэпрэсіі проціў апазыцыі ўсё павялічваюцца. Левыя газэты што дзень прыносяць усё новыя весткі аб канфіскаце газэтаў, арыштаў сярод работнікаў і работніцкіх дзеячоў, закрыцьці работніцкіх арганізацыяў і г. д. Урадовыя газэты, каб апраўдаць гэтыя рэпрэсіі, падаюць сэнсацыйныя весткі аб выкрыцьці тайных арганізацыяў, маючых на мэце зваленьне сучаснага ўстрою, розных шпіёнскіх арганізацыяў, якія чуць не ахапілілі густою сеткай усю Польшчу. Чытаючы гэтыя весткі здаецца, што запраўды Польшча падмінавана з усіх бакоў і гатоў хутка наступіць узрыў. Усё гэта правая прэса робіцца дзеля таго, каб зрабіўшы адпаведны настрой у масах, зрабіць фашыстаўскае выступленьне, калі ўжо парлямэнтарным шляхам ня можна будзе яе ўтрымаць у сваіх руках. З фашыстаўскімі арганізацыямі ўжо ніхто ня крыецца і яны яўна выступаюць з сваімі адозвамі.

## АМЭРЫКА.

Газэты паведамляюць, што ў Злучаных Штатах узмацоўваецца камуністычны рух. У шмат якіх гарадох арыштавана многа асобаў, якія падазраюцца ў камуністычнай агітацыі.

## АНГЛІЯ.

У Англіі йдзе гарачкавая перадвыбарная агітацыя. Змагаюцца галоўным чынам тры партыі: кансэрватары, лібэралы і работніцкая партыя.

## АУСТРЫЯ.

У Аўстрыі работнікі рыхтуюцца распачаць генаральную забастоўку з прычыны цяжкога эканамічнага палажэньня, якое вытварылася аддачай для папраўленьня фінансаў усіх важнейшых прадпрыемстваў на одкуп заграінчнага капіталу.

## С. С. Р. Р.

„Экономическая Жизнь“ паведамляе, што Радавыя Рэспублікі дастаўляюць хлеб усім перадваенным спажыўцам расейскага хлеба: Нямеччыне, Францыі, Галяндыі, Фінляндыі, Турцыі, Скандынавіі, Італіі і Грэцыі. З ліку набыўцаў выбылі толькі Румынія і Гішпанія.

---

Усеармянскі зьезд партыі „Дашнанцутюн“ у Эрывані абвесьціў партыю ліквідаванай. Зьезд заклікае быўшых сябраў партыі да супрацоўніцтва з камуністамі.

# З газэт.

## Крызіс зямельнае рэформы.

Пад той час, як зьезд абшарнікаў у Вільні дамагаецца „ушанаваньня іх права ўласнасьці“ і замест зямельнае рэформы суліць свабодную прадажу сялянам зямлі, — больш *разумныя* кракаўскія консэрватысты маюць адвагу глянуць праўдзе ў вочы і прадставіць запраўднае палажэньне селяніна—ня толькі нашага загнанага беларуса, але і „паўнапраўнага“, „гаспадара дзяржавы“, польскага селяніна. Нязвычайна цікавую стацьцю на гэту тэму знаходзім у кракаўскай консэрватыўнай газэце „Czas“. Ня гледзячы на тое, што польскія сяляне плоцяць зусім мала падаткаў—прыблізна „па два яйкі з морга“ (каля дзесяціны),—ім цяпер і гэта зрабілася цяжка, бо яны наагул вельмі зьбяднелі:

> „і тых дробных падаткаў, якія павінны плаціць, цяпер ужо аж залішне часта выплачываць ня ў сілах“.
>
> „Ды яшчэ горш таго: мужык ня мае за што купіць сабе солі, газы, зялеза, ботаў, бялізны, вопраткі. Найбагацейшы ня ў сілах купіць хоць-бы адзін плуг“.

Вынікам такога абядненьня сялян, піша „Czas“, зьяўляецца немагчымасьць правядзеньня зямельнае рэформы, абапертае па *выкупе* зямлі:

> „Мужык у Польшчы раптоўна згалеў і ня мае за што купляць зямлю“.

Другім вынікам з гэтага, хаця ні „Czas“, ні тым больш абшарнікі ня зробяць, зьяўляецца пытаньне: калі на дарозе *прадажы* сялянам зямлі зямельная рэформа невыпаўніма, дык ці ня трэба зьвярнуцца да тае разьвязкі справы, якое дамагаюцца беларускія паслы; надзяленьня сялян зямлёй *бяз выкупу*?

Дае-ж польскі ўрад *дарма* зямлю вайсковым асаднікам, ды йшчэ ў дадатку міліярды марак ім сыпле шчодрай рукой. Чамуж гэтага прынцыпу не пашырыць на ўсё сялянства?!

# Агляд жыдоўскай прэсы.

*(Эндэцкія ўрады і эксцэсы.—„Што трэба голасна сказаць!“—Новы шыльд для старай фірмы.—„Віленская рэспубліка“.)*

Пасол Грюнбаум у „Najer Hajncie“ прыводзіць факт падчырківаньня праз эндэцкага пасла Верцяка на паседжаньні адміністрацыйнай камісіі, што ад часу, калі нарадова-дэмакратычны лагер трымае ўладу ў сваіх руках, ня было ніякіх антыжыдоўскіх эксцэсаў.

Прамову пасла Верцяка па думцы лідэра „Жыдоўскага Кола“ дапаўняе інтэрв'ю рэдактара эндэцкага лейб-органа Васілеўскага з супрацоўнікам „Express'а“. У гэтым інтэрв'ю пан Васілеўскі цьвердзіць, што цяпер, калі ў часе „нарадовых“ урадаў спыніліся антыжыдоўскія „һесе“, жыды пакінуць барацьбу з Польшчай. (sic!)

Вось-жа, даючы эндэцкім павадыром належную адправу, п. Грюнбаум кажа:

> „Нават і цяпер жыды не пакінуць змагацца за правы і справядлівасьць у Польшчы і ня будуць задавальняцца тым, што ўжо 6 месяцаў бадай што ня было эксцэсаў. Запраўды, жыды—гэта дзіўны народ! Ня хочуць задаволіцца тым, што ўжо цяпер ня церпяць з прычыны эксцэсаў, а жадаюць быць нароўні грамадзянамі і быць трактаванымі, як народ, які мае права на вольнае жыцьцё і свабоднае разьвіцьцё!“

„Nasz Przegląd“ зьмяшчае цікавы артыкул, напісаны тым-жа паслом п. заг. „Што трэба галасна сказаць!“

З прычыны актуальнасьці парушанага пытаньня і сьмелага падходу да такое дразьнячае справы, прыводзім найбольш характэрныя кавалкі:

> „Круцімся ўсё ў тым самым зачараваным коле, у якім апынуліся ў першым дню Сойму. Лявіца, асабліва сацыялістычная, мае да выбару альбо саюз з сацыяльнаю і культуральнаю рэакцыяй, якую прадстаўляюць хадэкі, альбо адважыцца на сьмелае выступленьне ў справе нацыянальных меншасьцяў, на дапушчэньне іх да ўрадовай большасьці і, што з гэтага вынікае, на заспакаеньне найболей пякучых іхных патрэбаў. Урад Сікорскага, дасюляшнія рэконструкцыі габінэту Вітаса былі спробамі абмінуць гэтыя пытаньні, абыйсьці іх, адсрочыць. Але з усяго гэтага нічога ня вышла. Грязьнем усё больш, усё глыбей. Ніякая праблема ні фінансавая, ні палітычная дагэтуль не разьвязаны.
>
> Сучасная большасьць ідзе, можа нават несьвядома, па сьлядох тых расейскіх партыяў, якія пасьля рэвалюцыі 1905 году, перад пагрозай рэвалюцыі прабавалі задушыць народ, адбіраючы ад яго здабытыя правы і абкружваючы яго, быццам калючым дротам, вынятковымі законамі. У гэткай палітыцы правіца бачыць адзіны ратунак. Але на гэткую палітыку сяляне ня могуць згадзіцца, асабліва ў мамэнт, калі прымушаны стаць з вока на вока перад выбаршчыкамі. Саюз з правіцай ня даў ім спадзяваных карысьцяў, а нават не ўмацаваў супакою ў краі, непакой скарэй узмогся за час урадаваньня цэнтра-правага блёку, забурэньні растуць, а рэпрэсіі выклікаюць пратэсты і спраціў.
>
> Што адкажа Вітас на пытаньне, што дало сялянам ягонае паўгадовае ўрадаваньне? Нічога, бо тое, што дасюль адказваў, быў толькі заклік да цярплівасьці. А што цярплівасьць ужо вычарпалася ў яго ўласным лагеры, здаецца не падлягае сумляваньню“.

Канец артыкулу пасла Грюнбаума сьведчыць, што дэмакратычны трыбун „Кола“ ня здрадзіў сваім дасюлешнім прынцыпам:

> „У працэсе барацьбы проціў ураду рэакцыі і ўціску адбываецца пэўная консолідацыя польскіх левых партыяў з клюбамі нацыянальных меншасьцяў. Бадай ува ўсіх справах, а ў справах палітычных бяз вынятку, галасуюць разам. Вытвараецца пэўнае пачуцьцё супольнасьці інтарэсаў, якое ўзмацуецца з часам і давядзе — ня будзем траціць надзеі—да таго парлямэнтарнага саюзу, які лічым збаўленьнем для Польшчы і да якога не перастаем імкнуцца. Калі назаўтра пасьля супольнага зваленьня сучаснага ўраду прымушаны будзем зноў павярнуцца фронтам проціў новага ўраду і ўчарашніх таварышоў па аружжу, дык гэта толькі зашкодзіць справе і ніхто ня выйграе, апрача тэй самай эндэцыі, якая хоць пазбаўленая ўлады, ня спыніць сваіх згубных уплываў на Польшчу. Вось якраз гэтага мы павінны пазбыцца і дзеля гэтага кажам аб гэтым моцна ў сучасны мамэнт, калі крызіс вісіць, так сказаць, у паветры, наражаючыся на абвінавачваньне, што граю на руку правіцы“.

„Unzer Folkscejtung“, абгаварываючы рэконструкцыю габінэту, цьвердзіць, што ў сучасны мамэнт можа быць мова толькі аб урадзе спэцыялістаў, бо цэнтра-леву не хапае двух рэчаў: праграмы і большасьці. Аб коаліцыйным-жа ўрадзе мовы ня можа быць, бо P.P.S. і Хьена не здолеюць утварыць суполь-

---

раўнік Белар. Аддзелу, у мэтах быццам атрымаць фармальна-юрыдычныя падставы для нявыдачы гэтых пасьведчаньняў, рассылае паперы, у якіх зазначае, што вучыцялі як не зьявіўшыяся зусім на курсы, дык і прапусьціўшыя $^{1}/_{2}$ лекцыяў не атрымаюць пасьведчаньняў. У Пэдагагічную Раду Курсаў ён прысылае форму ведамасьці, якую Курсы павінны былі падаць у Бел. Аддзел і ў якой была замешчана графа: „Заключэньне Пэдагагічнай Рады Курсаў аб пасьпешнасьці праслуханьня курсаў кожным слухачом“ (№ 2046).

Карацей кажучы, з вонкавага боку выглядала быццам кіруючы ворган у асобе гр. Сахарава таксама стаў на шлях чыстай нацыяналізацыі беларускай справы і таму Пэдагагічная Рада Курсаў у асобах Пігулеўскага, Краскоўскага, Мядзіолка, Якубецкага і Корці вырашылі прыняць на сябе ўвесь одіоз і ў мэтах дапамогі гр. Сахараву ў зьдзейсьненьні яго заданьняў вырашыла зрабіць зачоты, каб такім чынам даць у рукі Кіраўніка Бел. Аддзелу юрыдычны дакумэнт, на падставе якога ён мог-бы пры нявыдачы пасьведчаньняў нават усю віну зваліць на Пэдагагічную Раду Курсаў.

Але, як паказалі далейшыя падзеі, уся гэтая шчырасьць гр. Сахарава была адным з прыёмаў востравумна задуманага агульнага пляну, была толькі стратэгічным, ня кажучы іначай, прыёмам.

У той час, калі нацыянальная група з верай у справу пакладала ўсе сілы для працы на курсах, другая, руссо-беларуская група ўзмацоўвала свае сілы паціху рыхтуючыся да бою, які ёю быў намечаны. Гр. Езавітаў, які апрача падгатоўкі вучыцельства да бою, быў заняты, праўда, і арганізацыяй Люцынскай Гімназіі, не зьявіўся чытаць лекцыі на Курсы, ня гледзячы на тое, што ён быў запрошаны Пэдагагічнай Радай і яму было дадзена права самому выбраць для чытаньня лекцыяў вольны час. Разам з ім не зьявіліся на курсы і 17 чалавек вучыцялёў, тая гвардзія, на якую пакладалася ўся надзея ў будучым бою. Нават ігнаруючы гэтакія суровыя загады Кіраўніка Аддзелу аб прыездзе на Курсы, аб чым я гаварыў раней, яны добра сьвядомыя ў сваёй бязкарнасьці засталісь адпачываць, шануючы свае сілы для бою.

І бой адбыўся, адбыўся зусім неспадзявана для другой стараны.

**Гуль.**

(Далей будзе).

